Жыві, Беларусь!

# Народная газета

Орган Вярхоўнага Савета Беларускай ССР

№ 183 (196) 19 верасня 1991 г. Чацвер.

ВЫДАЕЦЦА З КАСТРЫЧНІКА 1990 ГОДА НА БЕЛАРУСКАЙ І РУСКАЙ МОВАХ.

Кошт: у розніцу — 10 кап. падпісны — 3 кап.

## Факты Аргументы Комментарии Суждения

### Вкратце

⊙ Литва, Латвия и Эстония приняты в Организацию Объединенных Наций.

⊙ Президент РСФСР намерен отправиться в Нагорный Карабах. Ранее Борис Ельцин и глава Казахстана Назарбаев договорились выступить посредниками в азербайджано-армянских переговорах по Нагорному Карабаху.

⊙ Враждующие стороны в Югославии подписали новое соглашение о прекращении огня в Хорватии.

⊙ По заявлению А. Солженицына он вернется на родину, закончив начатые произведения.

⊙ Министр финансов США Брейди заявил, что он отправляется в СССР, чтобы получить представление об экономических нуждах Советского Союза.

⊙ Президент Буш обещал воспользоваться своим влиянием, чтобы убедить СССР ускорить вывод войск из Прибалтийских республик.

⊙ Президент Горбачев заявил, что он согласен с тем. что надо начать расследование финансового состояния КПСС. Он, однако, подчеркнул, что ему лично ничего не было известно о денежных махинациях, проводимых под личиной партии.

### «Все лучшее детям»

**КОБРИН. В последнем номере районной газеты «Кобринский вестник» напечатаны сразу два обращения к жителям города — коллектива преподавателей музыкальной школы и работников Дома пионеров.**

Оба коллектива просят поддержать их просьбы — передать здание горкома партии детям. Причем как музыкальная школа, так и Дом пионеров претендуют на него по отдельности — вместе там будет явно тесно. Общественность в растерянности. Кому отдать предпочтение?

### Осень — пора голодовки

**На площади Ленина вновь появилась палатка голодающего.**

На сей раз к такой форме протеста прибег старейший участник христианско-демократического движения Виктор Заболоцкий. Наряду с претензиями личного характера — провести расследование по фактам фальсификации результатов выборов в Минский горсовет, куда выдвигалась и его кандидатура. Также он потребовал от парламента республики принятия нового демократического закона о выборах, немедленной отставки всех должностных лиц, скомпрометировавших себя во время путча.

Кроме того, по мнению голодающего, Верховный Совет БССР должен объявить всеобщую амнистию узникам белорусских концлагерей.

### Убирают дачников?

**С десяток крепких мужиков выскочили из подъехавшего автобуса и стали избивать людей, собиравших на поле картошку.**

Нет, это не эпизод из советского детектива. Произошло же вот что. В Логойском районе на землях совхоза имени Карла Маркса разместились дачные участки некоторых минских заводов. Рядом с «усадьбами» горожан простирается картофельное поле. Когда с него совхоз снял урожай, сметливые дачники решили собрать оставленные в земле ничейные «крохи». Первый раз их местные власти, мягко говоря, только припугнули.

Но поле манило. И вот несколько пожилых людей вновь отправились подбирать оставленный «второй хлеб». В это время и подкатил злосчастный автобус. Как нам сообщили по «горячему» телефону, пострадавшие запомнили номер «налетной» машины. К сожалению, связаться с директором совхоза нам не удалось. Его телефон молчал. Пора уборочная...

### Вместо сигарет — «капуста»

**УДМУРТИЯ, САРАПУЛ. На кооперативном предприятии «Дрожжипивзавод» яро взялись за курильщиков.**

С начала этого года всем бросившим курить и выдержавшим шестимесячное испытание выплачено 200 рублей. На днях же некурящие получили еще и прибавку к зарплате в 25 рублей. Решили нажать и на тех, для кого курево дороже денег: отныне из месячного табеля рабочего времени у них вычитается 11 часов. На собрании кооператива возражающих против такой меры не было.

### Хорошо устроились?

**ГОМЕЛЬ. Похоже, особых проблем с трудоустройством у бывших партаппаратчиков не возникает.**

Как стало известно, бывший «первый» горкома Валерий Некрашевич занял пост заместителя генерального директора одного из совместных предприятий с окладом 2.000 рублей. Бывшая завотделом Елена Леонова, судя по всему, продолжит трудовой путь в комиссии горисполкома по использованию собственности КПСС.

А вот товарищ Пугачев, первый секретарь обкома, менять род занятий пока не торопится.




Рисунок Олега ПОПОВА.

### Тюрьма плачет. Но Вольф не торопится

**Австрийское правителььство отвергло просьбу бывшего шефа Восточно-германской секретной службы Маркуса Вольфа о предоставлении ему политического убежища.**

Ранее правительство Германии заявило, что оно сделает все возможное, чтобы М. Вольф предстал перед судом. Его обвиняют в том, что в бытность свою главой разведки ГДР он руководил шпионской деятельностью против ФРГ.

Маркус Вольф ранее находился в Советском Союзе, откуда выехал в Австрию в конце августа после провала попытки государственного переворота в Москве.

**Выпуск подготовлен по сообщениям Виктора ЛЕЩЕНКО, Игоря СИДОРУКА, Николая ДЕБЕЛО, Владислава ПЛАТУНА и агентств «Инфо-нова» и «Урал-акцепт».**

**«Горячий» телефон 32-24-02 работает ежедневно с 9 до 11 часов.**

## *Віншуем! Станіслаў ШУШКЕВІЧ — Старшыня Вярхоўнага Савета Беларускай ССР*



Станіслаў Станіслававіч Шушкевіч нарадзіўся ў 1934 годзе ў Мінску. Беларус. Адукацыя вышэйшая. У 1956 годзе скончыў Беларускі дзяржаўны універсітэт імя У. І. Леніна, затым аспірантуру Інстытута фізікі АН БССР. Фізік, доктар навук, прафесар, член-карэспандэнт АН БССР.

Працоўную дзейнасць пачаў у 1959 годзе малодшым навуковым супрацоўнікам Інстытута фізікі АН БССР. У 1960—1961 гадах — старшы інжынер СКБ Мінскага радыёзавода. З 1961 па 1967 год — старшы інжынер, галоўны інжынер, загадчык сектара лабараторыі БДУ імя У. І. Леніна. У 1967—1969 гадах — прарэктар па навуковай рабоце Мінскага радыётэхнічнага інстытута. З 1969 года — дацэнт, прафесар, загадчык кафедры ядзернай фізікі БДУ.

З 1986 года — прарэктар БДУ па навуковай рабоце.

С. С. Шушкевіч з 1990 года — Першы намеснік Старшыні Вярхоўнага Савета Беларускай ССР.

Народны дэпутат СССР.

Жанаты, мае дваіх дзяцей.

## Пастанова Вярхоўнага Савета Беларускай ССР

### Аб парадку дня нечарговай шостай сесіі Вярхоўнага Савета Беларускай ССР дванаццатага склікання

Вярхоўны Савет Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі **пастанаўляе:**

Уключыць у парадак дня нечарговай шостай сесіі Вярхоўнага Савета Беларускай ССР дванаццатага склікання наступныя пытанні:

1. Аб выбранні Старшыні Вярхоўнага Савета Беларускай ССР.
2. Аб дэлегаванні ў склад новаўтвараемага Вярхоўнага Савета СССР прадстаўнікоў Беларускай ССР.
3. Аб Старшыні Цэнтральнай камісіі па выбарах народных дэпутатаў Беларускай ССР.
4. Аб змяненні артыкула 45 Часовага рэгламенту Вярхоўнага Савета Беларускай ССР.
5. Аб праекце Пастановы Вярхоўнага Савета Беларускай ССР «Аб увядзенні дадаткова пасады намесніка старшыні Камісіі Вярхоўнага Савета Беларускай ССР па пытаннях нацыянальнай бяспекі, абароны і барацьбы са злачыннасцю».
6. Аб назве, Дзяржаўным гербе і Дзяржаўным сцягу Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі.
7. Аб праекце Закона Беларускай ССР «Аб грамадзянстве Беларускай ССР».
8. Аб мерах, звязаных з забеспячэннем бяспекі і абаранадольнасці Беларускай ССР.
9. Аб устанаўленні часовага парадку рэгістрацыі статутаў (палажэнняў) рэлігійных арганізацый у рэспубліцы.
10. Аб падпарадкаванні мытнай службы.
11. Аб Генеральным пракуроры Беларускай ССР.
12. Аб прызнанні права прыватнай уласнасці на зямлю ў Беларускай ССР і ўнясенні змяненняў у заканадаўства Беларускай ССР.
13. Аб Камуністычнай партыі Беларусі.
14. Аб знешнепалітычнай дзейнасці Беларускай ССР.
15. Аб рашэннях нечарговай пятай сесіі Вярхоўнага Савета Беларускай ССР дванаццатага склікання ў частцы, якая датычыцца Ленінскага Камуністычнага Саюза Моладзі Беларусі.

**Першы намеснік Старшыні Вярхоўнага Савета Беларускай ССР С. ШУШКЕВІЧ.**

17 верасня 1991 г. гор. Мінск.

### На сесіі Вярхоўнага Савета БССР

## Не было згоды — ды супрацьстаянне дапамагло

Учора падзеі ў парламенце развіваліся яшчэ больш драматычна. З самай раніцы пачаліся спрэчкі: змяняць ці не часовы рэгламент сесіі, каб даць магчымасць Шушкевічу і Кебічу зноў прыняць удзел у барацьбе за пасаду Старшыні Вярхоўнага Савета БССР. Парадаксальна тое, што калі раней з выступленнямі накшталт «хопіць губляць час, давайце зоймемся больш важнымі пытаннямі», «нельга парушаць рэгламент!» выступалі прадстаўнікі камуністычнай большасці, то сёння — апазіцыя. Дзіўна было назіраць, як бакі памяняліся месцамі.

Тым не менш пасля безвыніковага гадзіннага абмеркавання прымаецца рашэнне спыніць спрэчкі, каб даць магчымасць дэпутатам вызначыцца.

У дванаццаць гадзін пасяджэнне пачалося з выступлення Старшыні Савета Міністраў БССР Вячаслава Кебіча. Ён заявіў, што дзеля таго, каб на Беларусі ўсталявалася паразуменне, дзеля вышэйшых дзяржаўных інтарэсаў рэспублікі ён здымае сваю кандыдатуру. Пасля гэтай заявы фактычна скончылася вялікае супрацьстаянне двух асноўных прэтэндэнтаў, адкрылася магчымасць для змянення рэгламенту і абрання на пасаду Старшыні Вярхоўнага Савета БССР Станіслава Шушкевіча.

Аднак і тады, калі асноўны камуністычны стаўленік, якім называлі Кебіча члены парламенцкай апазіцыі БНФ, узяў самаадвод, гэтая фракцыя працягвала настойваць на сваім — даць Станіславу Шушкевічу паўнамоцтвы выконваючага абавязкі Старшыні Вярхоўнага Савета да выбараў новага, прыступіць да абмеркавання іншых пытанняў парадку дня. Тым не менш асноўная большасць парламентарыяў палічыла мэтазгодным змяніць рэгламент і правесці паўторныя выбары Старшыні ВС БССР.

У гэтых умовах некаторыя дэпутаты прадпрынялі спробу ператварыць выбары ў фарс. Літаральна за некалькі хвілін было вылучана шэсць «патэнцыяльных лідэраў» беларускага парламента. Зрэшты, спектакль працягваўся нядоўга — народныя дэпутаты Гаркун, Сасноў, Дземянцей заявілі, што яны і не думалі змагацца за такую высокую пасаду. Пагарачыўся, як потым выявілася, і самавылучэнец — народны дэпутат Эдуард Багаўцоў. Ён таксама ўзяў самаадвод.

А вось Леанід Козік, які сціпла ацаніў свае шанцы на перамогу ў выбарах, усё ж вырашыў змагацца да канца. Хаця раней, заявіў, што «ў такім спектаклі ўдзельнічаць не жадае».

Такім чынам, у выбарчыя бюлетэні былі ўнесены дзве кандыдатуры: Станіслаў Шушкевіч і Леанід Козік. Пасля галасавання Старшынёй Вярхоўнага Савета БССР быў абраны Шушкевіч. І, на нашу думку, вялікая заслуга ў гэтым не толькі тых, хто аддаў свае галасы за яго, але і той часткі парламенцкай апазіцыі, якая сваімі рэзкімі «антышушкевіцкімі» выступленнямі садзейнічала кансалідацыі ўсіх астатніх фракцый і груповак у падтрымку Станіслава Станіслававіча.

**Мікола ДЗЯБЕЛА, Сяргей ПЛЫТКЕВІЧ.**

## *Пастанова Вярхоўнага Савета Беларускай ССР*

### Аб Старшыні Вярхоўнага Савета Беларускай ССР

Вярхоўны Савет Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі **пастанаўляе:**

Выбраць Старшынёй Вярхоўнага Савета Беларускай ССР таварыша **Шушкевіча** Станіслава Станіслававіча.

**Намеснік Старшыні Вярхоўнага Савета Беларускай ССР В. ШАЛАДОНАЎ.**

18 верасня 1991 г. гор. Мінск.

## Коротко

### В Америку через Варшаву

**Наполовину уменьшится путь гражданам Литвы, ищущим визы в США. Сейчас не надо будет ехать в Ленинград или Москву.**

Как сообщил руководитель информбюро Литвы в Варшаве Даиниус Юукневичиус, все визы в США (кроме на постоянное место жительства) будут выдаваться Варшаве в Американском амбасаде. В столице Польши также можно будет подать заявление об эмиграции в США.

### Погляд з балкона

## ЗА КІМ ПОЙДЗЕ БЕЛАРУСЬ?

У панядзелак, яшчэ да пачатку сесіі, мы правялі экспрэс-апытанне сярод народных дэпутатаў, каб высветліць, хто з прэтэндэнтаў на пасаду Старшыні Вярхоўнага Савета БССР будзе мець больш шанцаў на перамогу. Прыемна адзначыць, што ў сваім прагнозе мы не памыліліся: ужо на наступны дзень асноўная барацьба разгарнулася паміж першым намеснікам Старшыні ВС БССР Станіславам Шушкевічам і Старшынёй Савета Міністраў БССР Вячаславам Кебічам. Аднак ні першы, ні другі тур галасавання не прынёс жадаемых вынікаў ніводнаму з прэтэндэнтаў.

Чаму так адбылося? Чаму некаторыя дэпутаты, якія доўгі час лічыліся аднадумцамі, скажам, Станіслава Шушкевіча ці Вячаслава Кебіча, на гэты раз выступілі супраць іх? Каб адказаць на пытанні, трэба паспрабаваць высветліць, якія сілы стаяць за кожным прэтэндэнтам, якая перспектыва магла б чакаць рэспубліку, калі б перамог той ці іншы кандыдат.

І пачаць трэба хутчэй за ўсё з Вячаслава Кебіча, якога вялікая колькасць дэпутатаў лічыла стаўленікам і вылучэнцам былой партнаменклатуры, наогул каманднa-адміністрацыйнай сістэмы. Успомнім, яшчэ раней Савет Міністраў рэспублікі выступаў з патрабаваннямі пераразмеркавання паўнамоцтваў, за прадастаўленне надзвычайных паўнамоцтваў Старшыні Савета Міністраў БССР. У час жнівеньскіх падзей Савет Міністраў рэспублікі не асудзіў путчыстаў, а некаторыя міністры іх нават у той ці іншай меры падтрымалі. Таму на мінулай пятай сесіі ВС БССР у чарговы раз узнікла пытанне аб адстаўцы Савета Міністраў рэспублікі, але сур'ёзна яно не разглядалася. Ужо пасля сесіі Вячаслаў Кебіч, як і іншыя міністры, заявіў аб сваім выхадзе з кіруючых органаў кампартыі Беларусі і прыпыненні (заўважце, прыпыненні, а не выхадзе!) членства ў КПБ. Аднак дзейнасць беларускіх міністраў, якія так ці інакш падтрымалі путчыстаў, Саветам Міністраў не разглядалася. Больш таго, у друку з'явіліся паведамленні, што ў Савет Міністраў пераліваецца партнаменклатура з прыпыненай КПБ (а колькі пераліліся раней!). На такім фоне адбылося вылучэнне кандыдатуры Вячаслава Францавіча на пасаду Старшыні ВС БССР.

Многія дэпутаты задаваліся пытаннем: навошта яму гэта патрэбна? Няўжо ўлады было мала, няўжо дагэтуль не было магчымасці праявіць свае здольнасці? Не дзіўна, што ў некаторых узнікала падазронасць аб спробе прыпыненай КПБ перагрупаваць свае сілы, замацаваць Кебіча на галоўнай дзяржаўнай пасадзе рэспублікі з тым, каб потым з яго дапамогай вярнуць здадзеныя ў час жнівеньскіх падзей пазіцыі.

Таму і задаваліся Вячаславу Францавічу жорсткія пытанні, таму і спрабавалі дэпутаты высветліць яго пазіцыю па многіх набалелых праблемах. Але ён трымаўся цвёрда і, нягледзячы ні на што, не прагаварыў нічога лішняга.

Станіслаў Шушкевіч таксама аказаўся ў даволі складаным становішчы. Калі пад час мінулых выбараў яго галоўнай апорай былі тады яшчэ, праўда, не сфарміраваная апазіцыя БНФ і дэпутацкі клуб, то зараз многія члены апазіцыі ад яго адвярнуліся. І прычыны ў іх для гэтага былі. Успомнім у першую чаргу, якія пазіцыі занялі Шушкевіч і дэпутаты-бэнээфаўцы ў час красавіцкіх падзей. Пазіцыі, прама скажам, былі супрацьлеглымі.

Час паказаў, што ніякі Шушкевіч не здраднік, ён цвярозы палітык, чалавек, які ўмее з'ядноўваць сілы. Аднак тое, што адбылося ў красавіку, забыцца не магло. Трывожныя жнівеньскія дні высветлілі, хто ёсць хто ў парламенце. Шушкевіч праявіў сябе як сапраўдны грамадзянін рэспублікі, але... зноў жа не кінуўся на крайнія меры, на якія апазіцыя падштурхоўвала яго. Нельга не адзначыць яшчэ адно, што, на мой погляд, прымушае апазіцыю выступаць супраць Шушкевіча, — гэта тое, што ён, на іх думку, не з'яўляецца радыкальным прыхільнікам поўнай незалежнасці Беларусі.

З другога боку, тая, як мы раней называлі, паслухмяная большасць, была супраць Шушкевіча-дэмакрата. Але за год сумеснай работы змянілася сама большасць, многія дэпутаты-камуністы ўпэўніліся, што з Шушкевічам можна мець справу. Сваёй інтэлігентнасцю, ураўнаважанасцю, прафесіяналізмам ён заваяваў новых прыхільнікаў. Аднак, як высветліў першы дзень сесіі, іх было недастаткова, каб заняць пасаду Старшыні Вярхоўнага Савета.

Як вядома, многія члены апазіцыі БНФ напярэдадні заяўлялі, што яны не будуць вылучаць свайго прэтэндэнта. Але тым не менш на пасаду Старшыні ВС БССР была прапанавана кандыдатура Уладзіміра Заблоцкага. Не думаю, што апазіцыя спадзявалася на перамогу. Хутчэй за ўсё, улічваючы тое, што барацьба за месца Старшыні чакалася працяглая, Уладзіміру Заблоцкаму прадастаўлялася магчымасць на далейшае прапагандаваць сваю праграму, адцягнуць галасы ад двух асноўных кандыдатаў.

Генадзь Карпенка — чалавек нейтральны, ён мог спадзявацца на галасы кіраўнікоў сярэдняга звяна, нават былых партфункцыянераў, а ў другім туры, магчыма, і на галасы апазіцыі. Аднак, як вы ведаеце, да другога тура ён не дайшоў...

Што ж, у рэшце рэшт мы маем? Пасля першага дня сесіі ніхто з прэтэндэнтаў не набраў неабходнай колькасці галасоў. Вылучэнне новых кандыдатур працягвалася. Хто ўсё ж стане Старшынёй Вярхоўнага Савета БССР? Тут нам цікава параўнаць, наколькі вынікі выбараў у парламенце адпавядаюць меркаванням жыхароў Беларусі.

25 жніўня ў Мінску было праведзена сацыялагічнае апытанне. Мінчан папрасілі назваць найбольш аўтарытэтнага і папулярнага палітычнага дзеяча рэспублікі. Станіславу Шушкевічу аддаў свае галасы 21% апрошаных, Вячаславу Кебічу — 5%. Нельга не адзначыць, што 33% жыхароў Мінска лічаць, што такіх людзей у рэспубліцы няма, а 15% адказалі, што назваць прозвішча не могуць. Падкрэслю: не вызначыліся ў сваіх сімпатыях 48% рэспандэнтаў!

7—8 верасня сацыялагічнае апытанне праведзена ў Мінску, Гомельскай і Гродзенскай абласцях. 48,8% рэспандэнтаў палічылі, што пасаду Старшыні Вярхоўнага Савета БССР павінен заняць Станіслаў Шушкевіч, 14,1% — Вячаслаў Кебіч, 0,4% — Заблоцкі, а Генадзь Карпенка не змог набраць і 0,4%.

Аб чым гэта гаворыць? Аб тым, што парламент часткова адлюстроўвае настрой нашага грамадства. Але, улічваючы тое, што выбары дэпутатаў праводзіліся недэмакратычна, што ў Вярхоўным Савеце занадта многа людзей, якія прадстаўляюць апарат кіравання, — гэты парламент больш кансерватыўны, чым грамадства.

З другога боку, у сувязі з тым, што многія дэмакратычныя дэпутаты сталі фактычна прафесійнымі палітыкамі, яны развіваліся значна хутчэй і... таксама адарваліся ад грамадства. Што гэты факт мае месца, сведчыць хаця б тая колькасць людзей, якая прыходзіць на плошчу Леніна падтрымаць апазіцыю. Іх усё меней. Людзей усё больш хвалююць жыццёвыя праблемы, многім з іх не да палітыкі.

Не ўлічваць настрой грамадства нельга. І таму менавіта ў гэтых умовах нам патрэбен кіраўнік Вярхоўнага Савета, які мог бы працаваць менавіта з гэтымі дэпутатамі, які б мог падрыхтаваць усе неабходныя для сапраўдных рэформ законы, які б не давёў наш народ ні да бунту, ні да рэвалюцыі. Ні Кебіч, ні Заблоцкі на пераходным этапе з такой задачай не справяцца.

Ёсць толькі адзін рэальны прэтэндэнт — Станіслаў Шушкевіч.

Але гэта мой асабісты погляд...

**Сяргей ПЛЫТКЕВІЧ, аглядальнік «Народнай газеты».**

### На скрыжаванні думак

## Бой апошні, бескампрамісны?

**Мінулая нечарговая сесія ВС БССР прыняла рашэнне аб прыпыненні дзейнасці КПБ да высвятлення дачынення кіраўніцтва партыі да дзейнасці ДКНС. Вельмі многія людзі з радасцю сустрэлі гэта рашэнне, іншыя яго не прынялі.**

**Зразумела, не маглі пагадзіцца з такім паваротам справы і вярхушка партыі, і партыйная наменклатура...**

Мы папрасілі пракаменціраваць склаўшуюся сітуацыю прадстаўніка апазіцыі БНФ народнага дэпутата **Яўгена НОВІКАВА:**

— У першы дзень сесіі нашы вядучыя юрысты Дзмітрый Булахаў і Віктар Ганчар выказалі думку, што рашэнне мінулай сесіі Вярхоўнага Савета аб прыпыненні дзейнасці КПБ незаконнае. Я з гэтым катэгарычна не згодны. Яны блытаюць два паняцці: партыя парламенцкага тыпу і партыя дзяржаўнага тыпу. Вярхоўны Савет можа забараніць дзейнасць любога дзяржаўнага органа ў выпадку ўзнікнення падазрэнняў аб удзеле яго ў дзяржаўным пераваpоце. У нашым выпадку КПСС—КПБ разглядалася як дзяржаўны орган (а я думаю, ніхто не стане аспрэчваць, што цэлыя дзесяцігоддзі кампартыя была менавіта кіруючым дзяржаўным органам), і Вярхоўны Савет правільна зрабіў, прыпыніўшы дзейнасць КПБ.

На сённяшняй сесіі партнаменклатура сапраўды пайшла ў свой апошні бой. Бо на мінулай сесіі мы вырашылі самае галоўнае пытанне: ВС БССР паставіў перашкоду на выкарыстанне партыйнай маёмасці. Гэта самае галоўнае. І фармулёўка Каратчэні— спроба пад выглядам размовы аб партыі рэанімiраваць яе пад новай назвай, каб вярнуць сабе маёмасць. Усё круціцца вакол маёмасці.

Сёння сітуацыя вельмі дрэнная. вельмі непрадказальная. Наменклатурная большасць не разумее, з якім агнём гуляе. Яны спецыяльна ідуць на абвастрэнне. І вылучэнне Кебіча на пасаду Старшыні Вярхоўнага Савета БССР — гэта падштурхоўванне народа да рэвалюцыі. Бо, стаўшы Старшынёй, ён перацягне да сябе ўсіх сваіх людзей, і тады знікне тая сістэма супрацьвагаў, якая павінна існаваць у кіраўніцтве рэспублікі...

У першы дзень сесіі яшчэ перад пачаткам пасяджэння мы звярнуліся з такой жа просьбай і да сакратара ЦК КПБ **Валерыя ЦІХІНІ:**

— Рашэнне сесіі трэба паважаць, але я ў карэктнай форме павінен падвергнуць крытыцы прынятую пастанову «Аб прыпыненні дзейнасці кампартыі Беларусі». Справа ў тым, што на сённяшні дзень няма ніякіх доказаў дачынення КПБ да дзейнасці сумна вядомага ДКНС. У звароце ЦК КПБ, на які часта спасылаюцца, не ўтрымліваецца падтрымкі ДКНС. Кіраўніцтвам ЦК КПБ не зроблена ні аднаго практычнага кроку, накіраванага на рэалізацыю пастаноў ДКНС. Гэта маё меркаванне, апошняе слова за следчымі органамі. Але я не сумняваюся, што да іншага вываду часовая камісія і следства не прыдуць. Я ўпэўнены, што ісціна ў рэшце рэшт пераможа: людзі ўбачаць, што КПБ ні ў чым не вінавата.

Больш таго, я павінен сказаць, што дзейнасць КПБ, як і любой іншай грамадскай арганізацыі, можа быць забаронена толькі па рашэнню суда ў адпаведнасці з законам «Аб грамадскіх аб'яднаннях». Вярхоўны Савет не мае права прыпыняць дзейнасць любой партыі, таму гэтую акцыю я, як юрыст, расцэньваю як незаконную...

Тое, што такая думка не толькі ў аднаго Валерыя Ціхіні, стала зразумела ўжо праз гадзіну. Дэпутаты-камуністы катэгарычна выступілі супраць фармулёўкі «Аб роспуску структур КПСС—КПБ»... Іван Каратчэня прапанаваў іншую, і яна прайшла. А калі пачалося вылучэнне кандыдатаў на пасаду Старшыні Вярхоўнага Савета, то абсалютная большасць дэпутатаў палічыла Вячаслава Кебіча стаўленікам партапарату. Дык што гэта — новы бой?

**Сяргей ПАЛЯШУК.**

